# Мар'ян Дукса

## Забытыя словы

Мар'ян Дукса

# Забытыя словы

ЛІРЫКА

Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1979

## ПРОДКАМ

Грыміць, палыхае наш век рэактыўна-машынны,
Выходзім на сувязь праз гул,
надрываючы глоткі.
Бяжым у дрымучыя нетры ядра штохвілінна.
Услед пазіраюць з дакорам і верою продкі.

Сягаем далёка-далёка наперад у руху
няўмольным.
Жыццёвая ноша цяжэе і муляе плечы.
На гонкай дарозе іначым мы свет навакольны,
І свеціць у спіны былога пагляд чалавечы.

Нам верыцца: справы, пачатыя намі,
такога значэння,
Што зойдуцца ў песні натхнёным хармалам паэты.
Мы, прашчур, не будзем прасіць у цябе
прабачэння,
Бо верым у тое, што здзейснім твае запаветы.

І птушак і дрэвы мы лічым сваімі сябрамі.
На сцежках зямлі раніцою успыхваюць ружы.
Ды стынуць, прадзьмутыя — хуткасць такая —
вятрамі,
І часам чарсцвеюць у гордасці сённяшняй душы.

Зямля лапушыцца зялёнаю нівай навукі.
І хмелем сцюдзёным напоўнена мудрасці чаша.
О продкі! З надзеяю возьмем яшчэ раз у рукі
Сяўню, дзе праменіцца зерне нязводнае ваша.

## ВЫТОКІ

Дзівосныя пальмы узімку на шыбах.
Пасля адчуванне: цяплеюць аблокі.
А потым разводдзе і лотаці выбух,—
Вытокі.

Вісіць над суніцамі сонейка млява,
Палеглі каровы ў поўдзень высокі.
Над рэчкаю сон, малады і цікавы,—
Вытокі.

Вясёлая маці глядзіць смеючыся.
Бо знае: ужо адрабіў я урокі...
О як вы далёка ужо засталіся,
Вытокі!

Кароценькі ліст ад старэйшага брата,
Пасылка, дзе яблык ляжыць рудабокі.
Журботна люляе драўляная хата
Вытокі.

Ручай у крыніцу не можа вярнуцца,
Ды каб не паволіўся бег яснавокі,
Дазвольце яшчэ раз у вас акунуцца,
Вытокі.

* * *

Сыходзіць у вочы таемна і зводзіць дыханне
Паўночнае неба. Над пожняю ярка слязіцца.
Ці зоры, ці яблыкі звоняць? На цёмным экране
І блізкі і вельмі далёкі сусвет мітусіцца.

Гукнуў бы я моцна, але ці пачуеш мяне ты,
Схаваны у засень галактык, нязнаны народзе.
А гэты мой клопат ёсць клопат самотнай
планеты,
Што хоча радню адшукаць на зыходзе стагоддзя.

Бы голуба, выпушчу мару у цемень начную,
Як доўга яшчэ мне блукаць у зямной паняверцы?
Спявае лакатар: чужая надзея пульсуе...
Фіксуе лакатар удары рытмічныя сэрца.

Заплюшчу я вочы, і, можа, трывога пакіне,
У сны нечаканыя пераліецца маркота...
А раніцай здасца чамусьці, што плыў
на ільдзіне
І як ні глядзеў — угары не было верталёта.

## ЖЫТА

О, безліч сцяблінак, што неба казычуць,
Любоўна стуліўшыся,—
Жыта...
Хвалюешся ты і трапечашся —
Знак згуртаванасці велічнай,—
Жыта...
Ускідвае ўгору фантаны калоссяў
Твой вецер,
Што вольна гуляе.
Адымеш найлепшае каліва,
Перасадзіўшы на ўзбочыну,—
Счахне.
Вечная радасць зямлі
І слава яе найвышэйшая —
Жыта!
Колькі сагрэла ты позіркаў мройных
З аўтобусных вокан.
Няспынна бягуць і дымяцца
Бярозы між намі,
Ты б'ешся ў дарогу зараз
Пенным прыбоем —
Здаецца, закоцішся ў рукі...
Жыта.
Між намі даверу ці зменела?
Можа, бракуе і сённяшнім сэрцам
Жытнёвай злітнасці.
Лічыць спідометр вёрсты
Расстання з табою.
Запытляваныя пылам палынным,

Хай сцішацца шыны —
Хай зломіцца графік...
Выйдзем,
Змоглыя, адчужаныя пасажыры —
Пагаварыць,
                    абагрэцца,
                                        зблізіцца
Ля залатога кастра твайго,
Жыта.

* * *

Не раз засмыліць і заные сумленне.
Прысніцца:

ля дому узлесак яловы.
Знаёмыя гукі пальюцца ў трызненні —
То матчынай песні забытыя словы.

О, як шапацела заранка на клёне,
Калі ты, адвыкшы ад голаснай мовы,
Шаптала, паклаўшы на плечы далоні,
Прызнанні, што згаслі ў забытыя словы.

І спадчыну нашу стагоддзі-атланты
Паважна трымаюць, нахмурыўшы бровы.
Спяць велічна-чуйна ў старых фаліянтах
Даверлівых продкаў забытыя словы.

Аднойчы душу спалыхне азарэнне
Ад нізкага ззяння ў час вечаровы.
Наверх усплываюць з нямых сутарэнняў,
Вяртаючы памяць, забытыя словы.

Ты зноў улюбёны, крылаты і юны,
Узнёсла праменіцца захад барвовы.
Адна за адной адзываюцца струны,
Пякучыя струны — забытыя словы.

## ТВОЙ ЧАС

Ён светлы яшчэ,
Пранкліва-зорны начамі.
Лагодна цячэ
І цёплымі лашчыць дажджамі.
Гудзе авадзень,
Зялёнае славячы лета.
Так будзе штодзень,
І заўтра паўторыцца гэта.
Густы травастой.
Наўкруг збажына маладая.
А час гэты — твой,
Твой час, што нябёсы гайдае.
Усё для цябе,
Усё аддаецца ў паслугу:
І шпак на вярбе,
І сонца, што ходзіць па кругу.
І зараз якраз,
Калі любаванню аддадзены,
Наперадзе час
Затупаў, як шпаркі буланы.
Адразу відно:
Пачнуцца шалёныя гонкі.
Твой час, як кіно —
Пявучая круціцца плёнка.

## ТОЙ БЕРАГ

Ляціць над вадою мой ранішні крык
І ад камянёў адбіваецца шэрых.
Нібы не адкрыты яшчэ мацярык —
Той бераг.

І грэе здалёку зялёны абсяг —
Радзіма пялёсткаў ружовых і белых.
Вучнёўскі малюнак цвіце у вачах —
Той бераг.

## МАНАЛОГ РАСПЛАЎЛЕНАГА ЧЫГУНУ

Так ззяю, што навокал
Аж водбліскі са сцен.
Я — вогненная спёка,
Якую шле мартэн.

Такая ўжо натура:
Заўжды святло лію.
Ах, каб тэмпературу
Мне вытрымаць сваю!

Я ведаю ўсе нормы.
Ды ледзьве не крычу:
«У выстыглыя формы
Лажыцца не хачу!»

Гарачае гулянкі
Закончыцца разгул —
Астуджаны чыгун,
Стандартная балванка.

Адна ў мяне дарога...
Як водзіцца здавён,
Я пакладу трывогу
У свой халодны звон.

Бо марыцца — іначай,
Бо сніцца дзіваку,
Што лаваю гарачай
Усё жыццё цяку.

## ТРЫПЦІХ

1

Бунтуе сок
                у жылах травіны,
Крылаты сок,
                што, закіпеўшы ў маі,
У неба жаўруковае страляе
Сцяблінкамі тугімі збажыны.
Парыўны ён.
                Аж бачыцца здаля,
Як, увабраўшы гонкасць маладую,
На стогадовай яблыні прастуе
Імклівыя атожылкі галля.
Яшчэ адзін
Напорысты узлёт —
І на арбіту вынесуцца кроны.
О, блаславёны
Гэты бег зялёны,
Які упарта выбіўся праз лёд.
Пульсуе сок
На вішні, на сасонцы —
Няспынна уздымаецца да сонца.

2

Але раптоўна
                заціхае рух,
У час паўдзённы
                растае у млосці,
Марудзіць ён
І не жадае штосьці

У неба
Уздымацца ва ўвесь дух.
І сок гусцее...
Новае жыццё
Ён пачынае, ацяжэўшы, зараз.
І горка-кісла набракае завязь,
Як немаўля,
Завітае ў лісцё.

3

Штодзень ранет падвойвае вагу —
Калышацца ружовы падарунак.
Былога руху іншы накірунак —
Сок у паветры апісаў дугу.
А перад тым
усё-ткі зазваніў
У самы венчык стромкай вершаліны,
Хацеў і далей...
Але рой пчаліны
Узбуджана навокал гаманіў.
Зямля казала сонейку:
— Люблю...
Плыла за ім з блакітнага абсягу.
Ды сонца зноў,
Перацярпеўшы смагу,
Вяртае сок салодкі
На зямлю.

* * *

На развітальны танец жаўталісця
Не пазіраеш сумна са двара —
Ты са двара наважылася выйсці.
Плыве ўгары вячэрняя зара.

Гарыць зара павольная над хатай.
На схіле дня запанавала ціш.
Забыўшы ўзяць дубец каструбаваты,
З усмешкаю ля веснічак стаіш.

Душа-пастушка... Вольніца рагулі —
Ля плота смачны дзяцельнік скубе.
Пагамані, прыветная бабуля,
Хачу яшчэ раз я пачуць цябе.

Умееш словам любым ачароўваць,
Што вылецела з-пад верацяна.
Нібы з такой вось мовай чабаровай
Ты засталася на зямлі адна.

* * *

А свет яшчэ не разгаданы.
Пытанні мрояцца часцей.
Мы час уведалі складаны,
А жыць зноў хочацца прасцей.

Грыбное ціхае учора
Усё шукаем у глушы.
І дзіўны халадок азёраў
Пераліваецца ў душы.

П'юць вусны спеўную крыніцу —
Свой дзень святкуе супакой.
Як урачыста спіцца, сніцца
Ля вогнішча па-над ракой.

І класці раніцаю рады
След басаногі на пясок,
Свае трывогі, спрэчкі, звады
Не ўзяўшы ў рэчавы мяшок.

* * *

Не разлінееny ў лінейку
Жыццю адпушчаныя дні.
Бягуць дарогі-чарадзейкі,
Пятляючы на далані.

Сляды расою затрасаю,
Іду мясцінай травяной.
І сцежка — лінія касая
Бясконца цягнецца за мной.

* * *

З ласінай сцежкі сaступі убок,
Рассунь рукамі пругкія галіны.
І ты нырнеш, адчуўшы санцапёк,
У першабытны зараснік малінны.

Каб быць сваім тут, паспытай яшчэ
Сухіх лаўжоў нябачныя калючкі.
Пры уваходзе ногі апячэ
Сабачанё — куслівая жыгучка.

А побач лісце скочыла ўгару,
Само з сабой пайшло наперагонкі,
Салодкую світальную зару
Ператварыла ў вогненныя гронкі.

Душа святкуе. Растварыўся тлум
Ва ўлонні хваль зялёнага прыбою,
Дзе толькі строфы з ягадамі дум —
Рукой бяры — усе перад табою.

* * *

Насычанае музыкай імгненне.
Такому шчасцю здарыцца ў жыцці —
Цераз вірлівасць гулкага натхнення
Мелодыяй высокай прарасці.

Сыходзіць яснасць з неба на шчаку.
І радасць слоў ператвараюць рукі
У залатыя ранішнія гукі,
Аддаными маленькаму смыку.

* * *

Пакуль ты буйна лісцем шапаціш,
Штурмуеш высь, дзе вецер — твой таварыш,
I след кладзеш, пранізваючы ціш,—
Датуль у часе плынным гаспадарыш.

Пакуль зямля здаецца замалой,
Пакуль у сэрцы вышыні бракуе,
Датуль між небам зорным і зямлёй
Ажыццяўляеш сувязь трапяткую.

Ды сябар вецер лісце саскубе...
Мо вінавата восень залатая,
Што парастак зялёны паўз цябе,
Адчуўшы раптам радасць, прарастае.

* * *

А трэба проста жыць,
Не клікаць свята ў будзень.
Каб жыць і не тужыць,
Што паслязаўтра будзе.

З-пад вусцішнай шчакі
Сваю прымі руку ты —
Як тыя асцюкі,
Не выкінеш пакуты.

Што — рай любой цаной
У сцішаным закутку?
І за глухой сцяной
Не ўтоішся ад смутку.

Нашто сачыць,
Сябры
Які мундзір займелі,
Не злепіш, хоць памры,
Лёс па чужой мадэлі —

Ці ён слатой імжыць,
Ці мяккі ён, як вата...
А трэба проста жыць,
Жыццё ж — такое свята!

## СУБОТНІ ДЗЕНЬ

Субота — дзень сустрэч,
Радні вясёлы клёкат.
Скінь нецярпенне з плеч —
Адчуй застолля локаць.

Прыемна з кухні б'е
Гарачы дух суботы,
Дзе прагна слоік п'е
Салодкія кампоты.

Параскашуйся, бор,
На поўнае вядзерца.
Частуй ад зор да зор —
Як на святкі вядзецца!

Стары бацян з сукоў
Не пазірае крыва...
Даўно ў старых бацькоў
Сама аціхла крыўда.

Адвыклі варажыць,
Застаўшыся сам-насам.
Вядома, болей жыць
Не давядзецца разам.

Яны не дзівакі.
Разлічвай на любое,
І толькі не з рукі
Патрабаваць любові.

Любоў — бацькоўскі дар,
Як пажывеш — паверыш.
Любоў, якую даў,
Назад такой не вернеш.

Ахвярная, адна,
Што можа быць у маткі,
Няхай плыве яна,
Як сонца, да нашчадкаў.

І ці журыцца ўноч,
Сягаць у свет няблізкі,—
Сын не адводзіць воч
Ад сынавай калыскі...

Пакуль што у цане
Пачуцці прывазныя.
Далёка ён ці не —
Унукі — сувязныя...

Мільгае ў шыбе цень:
Аўтобус міжгародні!
Разлучыць будні дзень,
З'яднае дзень суботні.

Зноў ціхі дом цвіце —
З малláннікам па пахі,
З грыбамі на пліце,
Што верасамі пахнуць.

* * *

Агледзець сад. Паварушыць падпоры,
Паспачуваць іх угарбелым спінам.
Ад яблыні — заможнай як ніколі —
Патэпаць пад дашчаную павець.
У госці зноў да векавухі ступы.
Паважна сесці. Хапянуць дымку
Не дзеля зводу часу. Малаток
Усыпле заліхвацкую чачотку
Адразу.
Языкастая каса
Ва ўсе двары раззвоніць нецярпліва:
Кароў на пашу выганяць пара.
Пакуль цурчыць духмяны сырадой,
Падацца у разлапісты бульбоўнік
І развітальны марш яму прайграць,
Махаючы танюсенькім бруском.
Іначай убярэцца цераз плот,
Як памаўза, пранырлівы туман.
Перахітрыць...
Да сонца узысці.
Бо тое сонца вечнае. Яму ж —
Свяціць нядоўга...
Хочацца паззяць,
Яшчэ паднець на познім небасхіле.
Галоўнае — да сонца узысці,
І будзе нізкі захад над табой
Святлець, а не шарэць.
Над баразною блісне васьміручка
І спудзіць вастраносую старую,
Што прыцемкамі косіць, крадучыся...

* * *

Большасць маіх выхаванцаў зіркастых,
Каму я паслужліва раіў,
Як трэба распарадзіцца лёсам,
Як трэба абсталяваць будучыню,—
Жывуць па сваёй блакітнай формуле,
Па сваёй стыхійнай схеме.
І рэдка хто каецца,
Што не выбраў маёй,
Нібы ўгледзеўшы там
Пункціры майго пакручастага лёсу,
Выстуджанага вятрамі.

* * *

*Рыгору Семашкевічу*

Гады ўзыходзяць і заходзяць,
Паціху коцяцца гады.
Табе ж — надзеі ў даль праводзіць,
Быць памяркоўным да бяды.

Любіць адчужаныя поўні,
Журыцца, верыць і гадаць.
Сабой халодны свет запоўніць,
Яму жаданы сэнс надаць.

* * *

Штодзённа сніць расу
Мурог, начамі звонкі,
Яшчэ цвітуць ваўсю
Цыбатыя рамонкі.

Ці бачылі, сваточкі,
Такой вясельнай белі?
Ад радасці званочкі
Гулліва зазвінелі.

«Хоць ваш такі убор,
Ды лішні шум нашто нам?» —
Прыкінуўся чабор
І сціплым, і здзіўлёным.

Расце аўсом густым —
Направа і налева —
Схмялелая у дым
Мятліца-каралева.

На ўвесь цягніце дух,
О, пчолы-запявалы.
Вы ж чуеце: наўкруг
Б'юць конікі ў цымбалы.

Хоць на адной назе
Танцуй, сівец, на ўзмежку!
Не хочацца касе
Спаць у старым застрэшку.

«Згуляй, згуляй са мной,
Хлапчына-навабранец...»
Карціць, карціць і ёй
Пусціцца ў гэты танец.

Вясельны пройдзе міг —
І травам стане горка,
Што падманула іх
Шалёная танцорка.

# БАЛАДА ЗАГУБЛЕНАЙ РЭЧКІ

Упалі на жоўты грудок
Чатыры старыя парэнчы,
Дзе побач збуцвелы масток
На правую дылю укленчыў.

Ужо не вярэдзіць адчай,
Таму што не ўстанеш на ногі.
Замёр гаманлівы ручай —
Як быццам ён збіўся з дарогі.

Шчаслівы надарыцца сон —
Здаецца, усё уваскрэсне:
Сцюдзёны яго перазвон,
Яго нетаропкая песня.

Напэўна, прагневаўся бог —
Чаму ж яму лёс такі выпаў:
Бульдозер — упарты бульдог —
Люстраныя вочы засыпаў.

Не трацячы светлых надзей,
У празе сустрэчы прыемнай,
З крыніцы ён бег да людзей —
Выходзіць, спяшаўся дарэмна.

Да сонца імчаў, як ганец,
А сёння, спазнаўшы збавенне,
Такі нечаканы канец —
Залазь у зямное скляпенне.

Ды зноўку з той цемры памкне
Прабіцца да свету людскога,
Хоць зараз ляжыць на спіне,
Хрыпатая душыць дарога.

Гуляе над ім сухавей.
А ўраніцы — сябар адзіны —
Прасвішча стары салавей
Салодкія дні-успаміны.

* * *

*Хведару Чэрн*

Прапісаныя ў часе адмысловым,
На край зямлі, як трэба, паляцім.
Даўно жывём са шчасцем пакаёвым,
Як з самым лютым ворагам сваім.

Бяром разгон, сягнуўшы ў наваколле,
Каб лёс вісеў на тонкім валаску.
А потым... мы застынем на прыколе,
На нейкім невялікім беражку.

Не тое што мядзведзем залягаем
У гарадской бярлозе, у глушы.
Народзіць нам дынаміка былая
Вышэйшую дынаміку душы.

Сцішэнне ёсць яшчэ не паражэнне —
Адна з прыкмет: адбыўся першы круг,
Калі ўжо стане кволым суцяшэннем
Дарогі гулкай механічны рух.

Падзьме свяжак парывісты ля вокан,
І вольны дух запеніцца ўгары,
Вялікі свет заясніцца навокал —
Такая б'е энергія знутры.

* * *

Сухое неба над сухой зямлёй,
Журба сухая ля спякотных вокан...
Дасюль ірдзееш кропляю малой,
А хочаш быць крыніцай і вытокам.

Стаць рэчкаю паціху. І тады
Такую раптам выявіць адвагу:
Нікому не шкадуючы вады,
Спатоліць неспатоленую смагу.

Пад мітусенне чаек і трысця
Вяршыць свой шлях па рэчышчы
жаданым
У пошуках любоўнага зліцця
З чужой душой і вечным акіянам.

* * *

Ты, лёгкая, ўсхапілася. Пайшла,
Нябачную сцяжынку адшукала.
Пайшла, пабегла, сарнай паскакала
Туды, дзе ў мора вымкнула скала.

Нырнула чайкай. Выплыла на плёс
Гарачай галькі. Зыркія каралі...
Ды не каралі — кропелькі зайгралі
На струнах рук, узнятых да нябёс.

Шчаслівая, стаяла і цвіла,
Аж людзі узварушана сцішэлі,
Як ты бесперапынна харашэла,
Сама сябе рукамі абвіла.

Блукала ўсмешка стрымана-скупая
На самым дне прыжмураных вачэй...
Пыталася аваламі плячэй:
«Якога ж мне пялёстка не хапае?»

* * *

Чыя уладарыць над вамі апека,
Схаваўшы ад часу у колер зялёны?
Штодзень пазіраюць старыя балконы
У вочы людскія з далёкага веку.

Не круглыя святы былі і нядзелі.
І вы апраналіся ў чорныя фарбы,
Як, надта жадаючы шэсцяў фанфарных,
Драпежнікі розных масцей тупацелі.

З'яўлялася сонца у сінім прагале,
Насустрач яму расчыняліся дзверы.
І рукі цнатлівыя юнай Венеры
Мелодыяй лёгкай увысь узляталі.

Убачыш такое, і болей пашэнціць,
Лічы, што заясніцца памяць да скону.
І гучна ускрыкваў мастак утрапёны,
Угледзеўшы: промні з вачэй рыкашэцяць!

Прыпалі у даўняй знямозе да тыну,
Як быццам жалезныя рукі змярцвелі.
І слухаюць старасць у сцішаным целе,
Стамлёныя службаю дэкаратыўнай.

## ВОБЛАКІ

Што лепей: імчацца у плыні бадзёрай,
Убачыць паўсвету
Або калыхацца у цішы паўдзённай
Без руху, без мэты?

Затое нікуды не гоніць трывога,
Не штурхае зранку.
Чакае заўсёды любая дарога
У вольным напрамку.

Ды вось вы зірнулі сямейкай бязроднай
З вячэрняга ззяння.
Відаць, надакучыла неверагодна
Такое бадзянне.

Згуртуе вас вецер, як сонейка сядзе,
За возера пойдзе.
Крылатае войска на даляглядзе
Кранецца на поўдзень.

За радасны бег у супольнай турбоце
Падзякаваць долі.
Вы зноўку адданы сваёй несвабодзе —
Спужаліся волі.

* * *

Ідзе вясёлаю хадой —
У брыгадзіра крок піжонны.
Ну як жа — хлопец раскляшоны,
Ну як жа — хлопец з барадой.

Глядзяць вавёркамі услед
Яго дзяўчаты-аднагодкі.
Усе прадбачлівыя цёткі
Заўзята клічуць на абед.

Не, ён абедаць не гатоў.
Крутне педаль нагою звыкла,
Махне рукою з матацыкла —
І з ветрам шпарыць да жытоў.

Жыты сыпучыя — чалом,
Гавораць, шастаючы: просім...
Зазыўна гойдаюць калоссем —
Лічы, паверылі ў дыплом!

Убранзавела-ясны лоб,
А на руках гуляюць вены...
І хоць цяпер пацвердзяць гены,
Што ён патомны хлебароб.

Даруем дробязі адной,
Калі апошні сэнс — у слове...
Услед за іншымі ў любові
Яшчэ не кляўся прад зямлёй.

Наўзбоч зірнуўшы з-пад рукі,
«Ах, чэрці!» — выкажацца звонка,
Калі мурожныя рамонкі
Гурмой збягуцца ў васількі.

Усхвалявана-востры зрок...
І цяжка гэткаму давесці,
Што кветкі розныя нявесце
Жадаюць сплесціся ў вянок.

* * *

Руплівы шпак
                        пакінуў цёплы пост,
Знямогшыся — сямейныя турботы!
Нарэшце такі вылузаўся з гнёзд
Увесь маладнячок шыракароты.
І узляцеў
Здужэлаю сям'ёй,
Усёй раднёй —
                        і весела, і люба.
А праз хвіліну вішняй сакаўной
Паружавеюць
Маладыя дзюбы.
Ёсць мёртвы час
                        у сытых едакоў —
На правады накідваюцца скопам.
Сядзяць,
Як тыя роўненькія копы
Нанізаных на дрот баравікоў.

## ЦВІЦЕННЕ ЛЁНУ

Адразу, як дождж праскакаў хапатлівы,
Рассыпаўшы звонкі сярэбраны лёскат,
Крутнулася сонца з-за хмары гулліва —
І вокаімгненна зайгралі пялёсткі.

І нібы адкрылася ніва другая,
І проста ў вачах адбыліся дзівосы:
Над самай зямлёю блакіт палыхае,
Захочаш — пакратай рукамі нябёсы.

Па-свойму святкуюць убор васільковы
Празрыстыя струны — сцяблінкі прамыя.
З душы матылямі запырхалі словы —
І цёплыя словы, ды толькі не тыя.

Здзіўлёны, палетак нябеснага лёну
Завабіць хачу у разгорнуты сшытак.
Малюнак і сіні, і светла-зялёны,
Але нерухомы — звычайны адбітак.

Ствараючы ўпарта малюнак наступны,
Намацваю голас жаданай паэмы.
Ля самай дарогі цвіце недаступна,
Здаецца, такая звычайная тэма.

* * *

Якая ў небе чысціня! —
Ты ўпершыню яе спасціг.
Наскрозь глядзіцца вышыня —
Ні пёрыстых, ні кучавых.

І ты ў расчыненую даль
З дзіцячай шчырасцю зірні —
Яна заззяе, як крышталь,
І затрымціць ад чысціні.

На колькі хвіль у той жа міг
Ты ашаломлена замры —
І панясецца твой уздых
Высокім рэхам угары.

* * *

За далягляд,
як пыл з дарогі,
Сплывалі годы і эпохі,
Цары,
дынастыі,
багі.
Жаўцелі нанава лугі
Пад ціхі пошчак шамацення.
Перад вачамі
цені, цені
Паўзуць:
Нерон...
Напалеон...
І раптам — бляск:
Яна і Ён...
Яна і Ён...
І цемра часу
Святлейшай робіцца адразу.
Не гасне зыркая камета —
Джульета, вечная Джульета.
Дыктатары, напалеоны —
Што значаць вашыя імёны?
Вячэрні дым.
Міраж і сон...
Апроч імён —
Яна і Ён.

* * *

Быў вечар, толькі адзін вечар,
Неспадзяваны, выпадковы.
А звоняць музыкаю вечнай
Табою кінутыя словы.

Утаймаваліся жаданні,
Аціхлі горыч і трывога.
Мой успамін, маё вяртанне —
Як быццам Млечная дарога.

* * *

Хачу ўявіць цябе другой,
Такой, якой ты не бываеш,
Хоць часам рукі раскрыляеш
Ты мне на вуліцы глухой.

Цябе я промнем уяўлю,
Якім і ты была калісьці,
Які, ныраючы між лісця,
Лагодзіў любую зямлю.

А ці змагу я вобраз твой
Ператварыць у ідэальнасць!
Тваіх тугіх плячэй авальнасць
Няхай застанецца былой.

Нашмат цяжэй карандашу,
Хоць ён і бог у нейкай меры,
Далёкім ззяннем на паперы
Акрэсліць новую душу.

* * *

Чаго хацець на золку болей?
Яшчэ што трэба для душы?
Вось чайнік радасна бурболіць,
Звіняць відэльцы і нажы.

Усюды ранішнія рытмы:
Рыпяць падлога і сталы,
Вурчыць, бурчыць электрабрытва,
Нясецца шоргат з-пад мятлы.

А дзе ж тут голас чалавечы,
Што рады ранішняй пары?
Навокал размаўляюць рэчы.
Чаму ж маўчаць гаспадары?

Чаму настрой такі панылы
У іх — не ведаеш і сам.
Хоць ты ўцякай у гай штосілы,
Дзе спеўна розным галасам!

## СТАРЫЯ ВАКЗАЛЫ

Аж млее
За вокнамі зрання пагода,
А тут
Непарушна стаіць прахалода.
Пануе за вокнамі
Спёка ці бура,
А тут
Не мяняецца тэмпература.
Бясконцы народ,
Мітуслівы, рухавы,
З дзвярэй
Запрашаюць дубовыя лавы.
Вясковых кабецін
Куток улюбёны.
Адпачываюць
Булкі, батоны,
Бухматыя кошыкі,
Вёдры, бляшанкі,
Віюцца вянкамі
Ўвесь дзень абаранкі.
Паладзіўшы з часам,
Не знаюць старэння
Высокія дзверы
І столь-сутарэнне.
Пафарбаваныя
Ў колер зялёны,
Узносяцца стромка
Угору калоны.

Яшчэ захаваўшы
Узнёсласць і зычнасць,
Здаецца,
Яны ўспамінаюць антычнасць.

* * *

Перагарае поўдзень угары,
Між голля аблятаючы барвяна.
Пад соснамі смалістымі ў бары
Дрымотна спіць сунічная паляна.

А навакол, нахіленыя ніц
(Угору прыўзнімаюцца начамі),
Ў прагалы лесу лапіны чарніц
Глядзяцца цёмна-сінімі вачамі.

Між лісця гронкі пырскаюцца — ці ж
У гнёздах утрываюць птушаняты?
Духмяная, што ягадзіна, ціш,
Сум нерухомы здзейсненага свята.

У забыцці не дыхае зямля,
Бяздумна млее ў засені смуродзін.
Вось-вось сарвецца з лапак і галля
Тужлівай ноткай пошум адыходзін.

Непадалёку ў душным гушчары
Залопае трывожная асінка.
Як хоча лес раздаць свае дары,
Рассыпаўшы па дуплах і карзінках.

Хутчэй жадае свята адслужыць,
Спасцігшы лісцем восені прыкметы,
Каб потым супакоіцца і жыць
У прадчуванні будучага лета.

## НАРАЧ

У нераце сонца ружоваю плоткай заб'ецца.
Аерам запахне.
Ліпова-сасновая вёска
На сон адыходзіць, стамлёная, нанач кладзецца,
Хоць б'юцца у цёплыя шыбы глухія усплёскі.

Зацэдзіцца зверху малодзіва — месяц на грушы.
І мроіцца хлопцам, што трухаюць з позняй
вячоркі:
Вунь човен нырнуў партызанскі,
трысцё узварушыў
І мацае бераг пад назіркам гатаўскай зоркі.

Былым партызанам збірацца не трэба нікуды.
Парыпвае лодка насупраць дагледжанай дачы.
Ускідвае вёслы ўладальнік бамбукавай вуды
Пад ветлівым назіркам колішняй зоркі удачы.

Зара палыхае. І цела дрымотнае пройме
Рыбацкага шчасця салодкі дурман і спакуса.
Зайграе затока, як першы праражацца промень
У водах — празрыстых, нібыта душа беларуса.

* * *

Сляды ў траве, у полі каласы
Па-гаспадарску ціха падсумоўвай.
Трапечуцца расстайна галасы
Над галавой
Агоніі кляновай.
Які ён шчодры золатам — фінал
Былога дня,
Што сыплецца ў далоні.
Клён адчувае:
Здрадлівы прагал
Ужо свіціцца ў велічнай кароне.
Любі галлё — працягнецца жыццё
Каля нябёс у спеўнасці няўтольнай...
Азоранае захадам лісцё
Злятае ўніз імкліва і супольна,
Глухую прадчуваючы нуду,
Што ўслед ідзе за полымем барвяным.
Пасля — спадаць у золкую ваду,
Цяпер жа — проста ў рукі закаханым.

* * *

Замерла гучная шматслоўнасць
Над жоўтым лісцем і травой.
Павісла ўсюды невымоўнасць
Утаймаванай сінявой.

З зялёным летам развітанне,
Дзе столькі сонца і надзей,
Не могуць выказаць гартані
Ні звонкіх птушак, ні людзей.

## ТВАЯ ПРЫСУТНАСЦЬ

Я цябе адчуваю
Кожнай клеткай душы,
Кожным атожылкам
Наструнены нерваў.
Ні натоўпам людзей,
Ні заслонаю сцен
Не прыхаваць
Тваю прысутнасць.
Твая прысутнасць, як хлеб,
Без якога,
Бадай, не выжывеш,
Як кісларод,
Без якога тым больш
Чалавек — нуль.
У дзень непагоды
І меланхоліі чорнай
У сэрцы маленькае сонца —
Твая прысутнасць.
Кожнай клеткай душы,
Кожным атожылкам
Наструнены нерваў
Буду я святкаваць
Штодзённа і вечна
Самы вялікі цуд у жыцці —
Тваю на зямлі прысутнасць,
Жанчына...

## ТВАЁ
## МІНУЛАЕ

Калі ў вячэрнім тралейбусе
З табою знаёміўся шчыра,
Рамантык, не мог я падумаць,
Што ёсць у цябе мінулае.
І зараз тое мінулае,
Як цень, валачэцца за намі,
Адзываючы цябе ўбок
Для перагавораў...
Ты шэпчаш пяшчотна заўсёды:
«Прабач, я на пару хвілін...»
Пакуль ты прыходзіш назад,
Сёе-тое зрабіць паспяваю:
Выкурыць пачку «ВТ»,
Вычытаць свежы часопіс,
Вылузгаць шклянку семачак,
Выпіць бутэльку сітра
І за вярсту ў атэлье
Схадзіць на прымерку касцюма...
Сёння яшчэ давядзецца:
Чатыры лісты напісаць,
Адправіць сястры бандэроль
І потым бабулю наведаць,—
Бо вунь на рагу ўжо
Чакае твой гітарыст...

* * *

Сказ-васьміног запаўзае ў верш,
Вось і разляжацца
                    на паўстаронкі.
Шарпаюць клешні завостраных косак.
Сунуцца сонныя словы авечкамі.
Ох, гэта ханская звычка
Гнаць, валачыць за сабою
Слоў велізарны табун.
Думаю,
Ці не пара
Рысакоў адабраць
З вогненнай грывай
І з капытамі, што носяць маланкі.
Трэба спяшацца,
Пакуль не наспела змяркание,
Гожай часінаю шлях абскакаць.
Можа, не пыл той гаркавы,
Што слаўся раней,—
Іскры
Цяпер паляцяць на абочыну.

* * *

Там нешта прапусціў, чагосьці недагледзеў,
Спяшаўся гаварыць вячэрняе «адбой»...
Як растлумачыць двум маім суседзям
Сваю незадаволенасць сабой.

У іх занадта нораў жартаўлівы,
Пацешнікі, падвозчыкі кармоў.
Чарговы дзень закончыўся шчасліва,
Паціху сабе тэпаюць дамоў.

У іх парадак поўны. І, дарэчы,
Не варухнецца здрадлівы спадман,
Каб у імя нязздзейсненай сустрэчы
У верасноўскі кінуцца туман.

Зімовым часам і ў пару цвіцення
Іх не даймае, што не так жылі,
Што не дае вялікага натхнення
Такі маленькі круглячок зямлі.

Абы квітнелі лапушыста травы,
Абы зямля свяжэла... І пакуль
Хапае і вядомасці, і славы
Сярод людзей тутэйшых і рагуль.

## ЭКСКУРСІЯ СТАРШАКЛАСНІКАЎ

Атмасфера пачатага шчасця,
Яго рэальнасці поўнай.
Добра на прыступках заўтра —
Перад дзвярыма ягонымі
Трымкаць гітарай, як клямкай.
Сур'ёзнае папярэджанне:
Рыхтуйцеся,
Едзем да вас на агледзіны лёсу.
Не спадабаецца — вернемся.
Не ападзе нашай долі ранет —
Хай даспявае. Пасля адшукаем...
Жвавы, вясёлы табун,
Захоплены радасным рухам,
Не спасцігае ні руху, ні часу,
Увасабляючы плынны струмень.
Добра ці дрэнна,
Што я з гэтай пеністай плыні
Выбіцца колькі разоў намагаўся,
Каб убаку назіраць
Поступ вірлівых гадзін.
Ды кожны раз адчуваў:
Зносіць нябачная сіла
З аблюбаванага месца.
Нібы трысцінку,
Хістала ўласную праўду.
Праўду, што млын вадзяны спавядае:
Немітуслівым філосафам быць,
Рух несупынны
Рухам уласным трыножыць
І да таго ж яшчэ плён пакідаць...

* * *

Дрэвы агучаны птушкамі,
Травы населены мошкамі,
Сцежка абшыта кветкамі...
Першая стрэча.
Трэба агледзецца і дакрануцца,
Выслухаць, здзіўлена войкнуць.
Злосная мама
Моцна ўхапіла яго за руку
І да чыгуначнай станцыі цягне —
Подбегам, подбегам...
За пераездам і казцы канец.
Хлопчык расплакаўся, занараві́ўся,
Стаў вырывацца...
І мама ўскіпела:
«Ах, ваўчанё, адзічэў канчаткова —
Болей у госці да бабкі
Не ступіш!»

## ОДА СТАБІЛЬНАМУ ЧАЛАВЕКУ

Спартанскі лад жыцця
Прымаеш за абразу.
Хвала табе, хвала:
Дасюль не ўпаў ні разу.

Хвала, хай чуе бог,
Табе, твайму імпэту.
Яшчэ ў пялёнках змог
Сабе акрэсліць мэту.

Жыццё не гайдане,
Яно цябе не зможа...
Для слабых — так ці не? —
Пакуты раздарожжа.

Ну, брава, брава — хват
Ты лазіць па драбіне
Да сакаўных зярнят,
Каб зверху — шалупінне...

Высокая гара —
Галоўны твой напрамак?
І вось на ёй — ура! —
Скаструбаваны замак.

І зверху, і знутры
Бялёсы — колер пены.
Раз'юшацца вятры,
Але не трэснуць сцены.

Не думаеш ты, нас
Праводзячы да брамкі,
Што разбурае час
І не такія замкі.

* * *

Вятроў сустрэчных б'е крыніца,
Людзей сустрэчных гамана...
А нам так боязна спазніцца,
Бяжым, устаўшы davідна.

Слупы мільгаюць верставыя.
Ці ты шафёр, ці пешаход —
Ляціш... Ажно спіна заные,
Такі вялікі груз турбот.

Як на іголках — на абедзе,
Не чуеш, што гаворыць сын.
Куды спяшаеце, суседзі,—
У Рым? Цэнтральны магазін?

Ды нецярпенне ціснe грудзі
Хутчэй нырнуць за далягляд.
Хоць неўзабаве зноў жа будзе
Вяртанне спешнае назад.

## БРОНЗАВЫ ДЭМАН

Яму накінулі аброць...
У час паўночны ціха-глуха.
Быў ён пры Лермантаву духам,
А зараз — бронзавая плоць.

Ён марыць вырвацца з акоў.
Дух несуцішнага ўтрапення,
Глядзіць паныла на каменні,
Што сцерагуць яго з бакоў.

## КУРОРТНІКІ

Многія з іх,
Скажам, някепска іграюць
Арыстакратаў былых пецярбургскіх:
Дваццаць чатыры дні
З прыемнасцю смакуюць абеды,
Запіваючы гутаркай
Аб мэтазгоднасці ўласных карэт —
Легкавушак.
Вечарам жа падшукваюць кампліменты
Для чужых жонак,
Якія,
        дарэчы,
                        пярсцёнак вянчальны
Паспешна хаваюць у тумбачку
(А раптам муж-інжынер
Магнітафон уманціруе ў ім).
Шаноўны дацэнт
З манерамі графа
Клянецца ў вернасці міс-лабарантцы
Без класічных манер,
Але з класічнай фігурай.
Адна непрыемнасць у «арыстакратаў»:
Урач санаторны
Пад пагрозай
Пазбаўлення нарзанных ваннаў
Забараніў дуэлі.

## МУЗЕЙ МАЛЕНСТВА

Дзічка на месцы гумна —
успаміны.

Студня, схаваная ў мох барадаты,—
успаміны.

Самаробная балалайка,
Што некалі ўзнёс на таполю
У званні чацвёртай шпакоўні,—
успаміны.

На вушаку зарубкі —
Сведчанне,
як мне рабілася хата малой,—
Успаміны.
Дзве кашулёнкі — ў палоску паркаль —
Экспанаты.
Смешнае фота,
Дзе нейкі хлапчук
маршыруе з казой,—
Экспанаты.
Іншае фота: дзяўчынка ля бэзу.
Здымак,
што з дзённіка ўзяты цішком,—
Экспанаты...
Рэдкі наведвальнік, трапіў
Зноў у музей маленства,
Здарожаны, сцішаны.
Музей маленства...
Маці старая, не зачыняй яго.

* * *

Мужчына з сівою чупрынай,
Франтаваты ад партфеля да гальштука,
Як верабей, чырыкае —
З суседкай какетнічае.
Суседка нішто...
Туфелькі — каўчукавы п'едэстал.
Апратка — джынсавая сімфонія
(О, салонныя кампазітары
з крэйдай у пальцах!).
Стан — лепшая саната Бетховена...
Дзяўчына-маліна, сатканая з песні,
Зачаравана слухае,
Заадно праглядае, нібы часопіс,
Краявіды літоўскія цераз акно.
Як ёй пасуе такая універсальнасць!
Мужчына з сівою чупрынай,
Як са шкатулкі сярэбранай,
Сыпле
Кампліментамі і каламбурамі.
Захоплены сейбіт!
Дарожны Рамэо!
Яму не дапетрыць,
Што роля публічнага хвата і падлабуні
З'яўляецца роллю зялёнага блазна.
Але забірае паўстанак чарговы
Суседку, сатканую з песні.
Раптоўна сціхае ў вагоне
Град кампліментаў.
Вочы, дзе гойсаў агеньчык,

Паважна хмурнеюць.
Вяртанне на бераг.
На беразе тым
Ляжаць валунамі гады.
Сорак два валуны,
Да якіх на тросах,
яшчэ даўгаватых,
Прывязана шхуна...

* * *

Адсюль не бачна — дзесьці
Мы страцілі спакой,
Каб эстафету несці
На хуткасці такой.

Гадаць ці варта, хто мы,
Якая траса ў нас.
Мы са святла і грому,
Што праразаюць час.

Аглушаны, нагрэты
Разглядваем Сусвет.
Бліскучы хвост каметы
Аж пырскае услед.

Жывыя пабрацімы
Задымленай стралы,
Пакуль не перайшлі мы
У вечныя тылы,

Дзе цішыня разліта,
Акамянеў спачын...
Мы — бронзавыя пліты
Дарогі ўдалячынь.

* * *

На плечы сосен
                    першы снег упаў,
Прыгнулі сосны цяжкія галовы.
Дзень добры, снег,—
                    жаданая абнова.
Жытам — збавенне.
Дзецям — для забаў.
На плечы сосен
                    выпаў белы снег.
Якое дзіва,
                    паглядзіце, дзеці:
Застылі дрэвы нема,
                    як мядзведзі,
Што спяць на задніх,
                    прыпыніўшы бег.
Адразу сасnúmeнякі-барадачы
Сваім уборам радуюцца ціха.
Відаць па ўсім:
З Прыбалтыкі адліга
Вільготная прысунецца ўначы —
У неба
Накіроўваецца ртуць!
Зашастае лясное наваколле.
І шапкі снегу,
                    гайдануўшы голле,
На санную дарогу упадуць.

## ПЯРЭДАДЗЕНЬ ЁЛКІ

У люстры то гэта, то тое плячо...
Аж просяцца самі з шуфляды прыколкі,
Ажно прытанцоўвае шчасна дзяўчо.
У рукі сукенка плыве з-пад іголкі...
Пярэдадзень ёлкі!

Узбуджанне ў хаце, у правым крыле.
Пашана вялікая шоўку, памадзе.
Узнікшы з кардону, ляжыць на стале
Сарока, што ўдзельнічае ў маскарадзе.

Убачыць — стушуецца заяц-маркіз...
Запелі на кухні дзвярныя завесы.
Як гром сярод яснага неба — сюрпрыз:
Цалуйцеся хуценька — дзядзька з Адэсы!

Ці ёсць падарункі — нікому няўцям.
О, міг незвычайны! Таемнасці колькі!
Хоць выгляд бухматы у жоўтай кашолкі...
Хвіліну цярпення!
На ўцеху вачам
Вылазяць з пакункаў мячы і футболкі.
Пярэдадзень ёлкі!

Хавайце задачнікі і буквары,
Пакуль літасцівыя мамы і таты.
З чырвонымі шчокамі дзьміце ў шары,
Хай рвуцца угору, нібы стратастаты.

Ён радасны — заўтрашні дзень на зямлі,
Калі і гумовыя скачуць вавёркі.
Малеча, пакорна галовы схілі,
Пакінем ад пэйсаў святочныя холкі
Ў пярэдадзень ёлкі.

* * *

Тлусціцца клякса... Сёння урачыста
Пражыты дзень перапішу начыста.

Нічога. Здрэйфіў — не рабіся плаксай:
Чарговы аркуш уцячэ ад кляксы.

Жыві, крамзоль і абяцай фарсіста:
Мінецца год — перапішу начыста.

Не муляе пакуль што пад бакамі
Завязаны сяннік з чарнавікамі.

А ці не лепей, кажуць маралісты,
Пісаць адразу правільна і чыста.

Мае баразны клаліся бугрыста —
Усё жыццё перапішу начыста.

А не паспею — ёсць яшчэ нашчадак,
Ў маёй катомцы навядзе парадак.

Я так мяркую: як не перапіша —
Мае грахі хоць напалову спіша.

* * *

Сяброўства новае — падзея,
Пасля таго, як здрадзіць друг.
Круг аднакурснікаў вузее,
Ды й сам той круг — пункцірны круг...

Вось гэты роблена вітае,
Другі ж — калючы, як агрэст.
Як часта не адпавядае
Табе то міміка, то жэст.

Было ўсё проста ў маладосці.
Калі ж насунуў капялюш —
Такой складанай стала штосьці
Штодзённая прыцірка душ.

* * *

Натхнёны вялікім жыццём ручая,
Таксама
Сусветнай любоўю праліся.
Няўжо не пускае ў далёкія высі
Магнітнае поле сцюдзёнага «я».
І як ні кружуся —
Вяртаюся зноў.
Хоць ёсць суцяшэнне:
усё-ткі служэнне...
А тое, што гэтак цягнула дамоў —
Нічога не зробіш:
Закон прыцяжэння!
А трэба
Памножыць любоў удвая.
Імжыцца туга
з-пад апушчаных веек.
І хочацца, хочацца
вырвацца неяк
З магнітнага поля
маленькага «я».

* * *

Паэзія, высвеці ззяннем асеннія хмары,
Напоўні душу маю гэтым хвалюючым ззяннем.
Вось-вось і паверу ў твае неспазнаныя чары
І вершы штодзённа шапчу я, нібы заклінанні.

Не хочацца думаць, што рыфмы мае для забавы,
Нібыта званочкі на нітцы, развешваю рыфмы...
Упарта чакаю: адбудзецца цуд неўзабаве,
Калі затанцуюць твае мілагучныя рытмы.

## СУВЯЗЬ

Паэма

1

Наважыў сёння —
Так таму і быць.
Даўно пара наведацца у госці
Мне да сваёй
                    зялёнай маладосці,
Якую не забыць, не разлюбіць.
Хутчэй, касірша,
                    выпішы білет,
Камандзіруй
                    у матчыную вёску.
Ну, дзякую.
Вясёлыя бярозкі
Ускалыхнулі паўзабыты свет.
Якая задуменная язда
У тыя, зацярушаныя, годы...
Лагодна распасцёрлася пагода
Над раніцаю роднага гнязда.
Аселіцы затравянелай дух
Гаючай хваляй грудзі працінае.
Сцяжынка — летуценніца скразная
Выводзіць дабразычліва на луг.
Густое бездарожжа!
Нацянькі,
На нейкі міг
                    згубіўшыся у часе,
Шыбуй удалеч,
Маючы на ўвазе
Масток драўляны
                    звілістай ракі.

Спаўзае заклапочанасць з ілба —
Вясна ізноў
заглядвае у вочы.
Наперадзе разгоніста вуркоча
Няспынная ударная сяўба.
Аб чым мне
запытацца у яе?
І так відаць,
Што горача і парна.
Былы мой друг,
замурзаны напарнік,
Здаецца,
што мяне не пазнае.
Прыпаў ён да пшанічнай паласы...
Не пазнае!
Не павядзе брывамі!
Варочае спакойна рычагамі,
Хоць я крычу яму:
— На тармазы!
Адкуль такі нястрыманы задор,
У трыццаць год
яшчэ не ўтаймаваны.
Увішны трактар
шпарыць апантана,
Ажно па-конску чмыхае матор.
Вось заіржыць!
Не, покуль што сапе
Ад пэратугі — гусеніцы ў гліне.
А сябра мой,
рассеўшыся ў кабіне,
Нібы кароль, пасвіствае сабе.
Відаць, душа раздольная пяе,—
Яму
нібы мелодыя — загоны...
Ці прыме пастаянны свет ягоны
Сумненні невыразныя мае?

Ці ведае
                таварыш мой аб тым,
Ці думае,
                патузваючы трактар:
Наладжваю балючыя кантакты
Я па загаду памяці з былым.
Даводзіцца вяртацца у жыцці
У родны кут
Па веру і па слова.
Хачу я ў свет шаснаццацігадовы
З маўклівай урачыстасцю прыйсці.
Мне гэты свет патрэбен,
Як азон,
Зусім не як паслужная даведка.
Я стаць жадаю нанава падлеткам,
Што новы
                атрымаў камбінезон.
Я паўтарыць мінулае хачу.
І зараз — уявіце — выйду з хаты
Я хлопцам тым,
                            канца пяцідзесятых,
З зусім канкрэтнай марай уваччу.
І папрастую ганарыста я
Па вуліцы...
Свае далоні сцісну
І тры разы, нахмурыўшыся, свісну
Прарэзліва — мацней за салаўя.
Як па камандзе,
Высыплюць з варот,
Пасекшы назапашаныя дровы,
Хаўруснікі — гарачыя галовы,
Паспешна вішні кідаючы ў рот.
Усе яшчэ зялёныя,
                            бы рунь.
Мазоль ад тапарышча —
                                    суцяшэнне...

Нос угару,
А рукі —
　　　　　　у кішэні,
Дзе месціцца духмяністы тытунь.
Была размова наша — не вада...
Ніякіх не казалі сантыментаў...
— Скідайце ў шапку, хлопцы, дакументы,
І ўсе ў механізацыю гайда...
Таму што
　　　　　　хто ты сёння без яе,
Яна ўсяму сягоння запявала.
Нам крок да самастойнасці
Штурвала,
Адзінага штурвала не стае.
А тое, што датычыцца мяне,
У чым перакананы асабіста —
Я проста нарадзіўся трактарыстам,
І лёс такі
　　　　　　ніяк не абміне.
Мяне зусім не вабілі чыны.
Сярод начэй марудліва-бяссонных
Братаны тры
　　　　　　ў тугіх камбінезонах
Настойліва глядзелі са сцяны.
Яны,
Рабочай гвардыі касцяк,
Былі ў механізатарскіх мундзірах...
Не са сцяны,
А з тундры і Сібіры
Насмешліва пыталіся:
— Ну, як?..
Развітваліся ўзрушана сябры,
Каля гумна сабраўшыся на хвілю.
І па чарзе,
　　　　　　як трактары, дымілі,
Аж кольцы калыхаліся ўгары.

2

Зусім я не вандроўнік-пілігрым,
Што мерае прасёлачныя тракты.
Наладжваю балючыя кантакты
Я па загаду памяці з былым.
Яно, былое,
выслізнула з рук,
А можа, я
адрокся ад былога,
Калі пакінуў пыльную дарогу,
Ступіўшы задаволена на брук?
Якая сіла ўдалеч павяла
І што яшчэ хацелася агараць,
Калі адгэтуль уцякаў у горад,
Нібыта ад рагатага вала?
Ды вочы адарваўшы ад папер,
Я думаю
ў тужлівым непакоі,
Што страціў штосьці значнае.
Якое
Не вернецца ні потым,
ні цяпер.

3

Мы ўсё-ткі летуценнікі былі,
І гэты дзень стаў
незвычайна любы,
Калі ў мазуце тлустыя шурупы
Раскладвалі, як цацкі, на зямлі,
Рыпеў, жалеза ўчуўшы, чаравік
Нязношанай падэшвай і цвікамі.
Дапытліва абедзвюма рукамі
Абмацвалі мы цёплы рухавік.

Мы ведалі,
Што строгія майстры
На гэты раз
ніяк не забароняць
Той рухавік таемны распатроніць,
Каб ведаць,
Што знаходзіцца ўнутры.
Мы кожны дзень
па некалькі гадзін
У новыя ўгрызаліся навукі.
З прыемнасцю запэцканыя рукі
Па локці апускалі у бензін.
Патроху адмывалася іржа —
Няўжо і твар свой
гэтаксама церці?
І неўзабаве чорныя,
як чэрці,
Вывальваліся дружна з гаража.
Хоць хілыя,
Ступалі, як дубы,
Па вуліцы — упэўнена і цяжка.
Кудзелістa
З-пад форменнай фуражкі
Тапырыліся русыя чубы.
Мы ўсё-ткі летуценнікі былі.
Не ведалі,
Што песенныя рэйкі
Камусьці звоняць срэбнаю капейкай...
Вандроўкаю павеяла,
Калі
Павесілі мы карту на сцяну,
Пры ёй у крук
згінаючыся часта,
Складаючы петыцыю начальству:
«Пусціце нас усіх
на цаліну».

4

Як тут жывіцай пахнуць сасняки!
Даўжэе цень
                    у цішы вечаровай,
Сплывае дзень.
Чародкай ганаровай
Суправаджаюць сеялку шпакі.
Кладзецца след
                    на свежай паласе,
У глебе цёплай ажывае зерне.
Сваёй асобы значнасць і мізэрнасць
Узважваю
На шалях па чарзе.
Няма на свеце лёсаў-спарышоў.
Ці мой, ці твой —
Чый шлях самаахвярны?
На міг саскокні з трактара,
Напарнік,
Я да цябе пагутарыць прыйшоў
І шчыра прывітацца за руку,
Твае адчуць натруджаныя пальцы.
Мы пагамонім —
                    колішнія мальцы,
Паслухаем вясновае ку-ку.
Перадыхні хвілінку.
Адпачынь.
Былая дружба —
                    козыр ці не козыр?
Я і цяпер
                    твой памятаю позірк,
Кудысьці скіраваны ўдалячынь.
Успомню — і адразу уяўлю
Такім, як быў,
Калі пасля работы
Ты урачыста разуваеш боты

І басанож ступаеш на раллю.
Ну, а цяпер
Ці вабіць сінява?
Пад ёю
Сэрца раніцай ці тахне?
Калі зямля раскрышаная пахне —
Ці кружыцца
Ад шчасця галава?
Або — юнацтва канула у сны...
Стухае пагляд.
Ля павекаў цені.
Не хочацца бясконца летуценіць —
Ляцець у неба
з мяккай баразны.

А слова непацёртае — зямля,
Заўсёды свежы сэнс у гэтым слове,
Адухаўленне страчанай любові,
Яе раптоўны выбух...
І пасля
Я ўсё-ткі веру:
У душы тваёй
Любоў не згасла,
а на дне схавана.

Яна,
Нібы нябачная мембрана,
Звініць, звініць
над чуйнаю зямлёй.

5

Навокал
Быццам глеба не пустая,
Раскідвай жменяй вечнае...
Пішы!
Забыліся:
У вымерзлай душы

Дранцвее зерне.
І не прарастае.
А паласа засеяна.
Дабаўкі
Яна не просіць,
хоць усходы — дрэнь...
А ёй то што!
На аўтара штодзень
Глядзяць самотна вершы
з-за прылаўка.
Іх лёт у душы відавочна марны,
І вылецелі строфы у трубу...
Правесці дабраякасна сяўбу
Ты навучы,
Мой вопытны напарнік.
Хоць не стаю я
з выглядам прамоўцы,
Ты пазіраеш сцята,
як чужы.
Як быццам не ляжалі ў гаражы
Плячо ў плячо
на скінутай ватоўцы.
Я гэта часта ў памяці малюю —
Павер жа
Пералётнаму шпаку.
Ты ціснеш, як шкадуючы, руку,
Не верачы ў моц яе былую.
Мне у жыцці не так,
як на прывале.
Дарма ты гэтак думаеш.
Дарма.
Мне сорамна,
што біцэпсаў няма,
Як хутка
мае біцэпсы завялі.
Ад галавы

Чакаю ураджаю.
Трывожна:
Ураджаю не стае.
Бесперапынна звіліны свае,
Як некалі барозны, памнажаю.
Я ад цябе зайшоў далекавата,
Напарнік мой.
Даруеш ты ці не?
Не тыя сталі рукі у мяне,
Таму й сумую —
колішні араты...

6

Пакуль што я на лёс не наракаў,
Хоць і тужыў, бывала, мімаволі.
Ніякі не сакрэт:
Я — ветру ў полі,
А ты, мой дружа, дома
Што шукаў?
Што забірае твой жыццёвы круг,
Вакол чаго ягонае вярчэнне?
Хоць у самім сабе перамяшчэнне
Было?
Куды быў скіраваны рух?
У глыб душы?
У цёплы дабрабыт
Даўно ашаляванай пяцісценкі?..
Куды з акна расчыненага ў зрэнкі
Не палыхне начны метэарыт;
Дзе вельмі рана гаснуць вечары,
Адкуль святло не блісне перад вамі,
Дзе, адзінока сеўшы за сталамі,
Насуплена маўчаць гаспадары.
Ім выдаецца, мроіцца ізноў,
Адна і тая ж дакучае сцэна:

Бы голыя насоўваюцца сцены,
Хоць і трымаюць тузін дываноў.
Ідуць дварышчам — мітуслівы крок —
Гаспадары...
Узрушаны і рады,
Калі глядзяць на хвацкую веранду —
Для мух вясенніх сонечны куток...
Душу жаданне
новае шкрабе —
Зрабіць яшчэ вышэйшымі вароты...
Напарнік мой,
Адкуль мне ведаць,
хто ты,
А можа, гэты сказ і пра цябе?
Я толькі помню:
Марылі удвух,
Стваралі свет высокага значэння...
Хоць у самім сабе перамяшчэнне
Было?
Куды быў скіраваны рух?
Шануючы бацькоўскую зямлю,
Яе народ, напорысты і дужы,
Ты ведаеш,
Напарнік мой і дружа,
Каго я па-сапраўднаму люблю.
Прайдзі наўсцяж —
Ля дзедаўскіх сяліб
Былыя хлебаробы і вайскоўцы,
Спавітыя маршчынамі вяскоўцы
Гамоняць,
прытуліўшыся да ліп.
Аб чым яны гамоняць?
Аб вайне...
Той ці другой...
Хоць міла ці не міла.
Апошняе стагоддзе адбубніла,

Адгрукатала цяжка на спіне.
Як на зямлі,
Што ўстала на дыбы,
Ім удалося перажыць віхуры?
Хіба іх надта шкадавала бура,
Завейным пылам
белячы чубы?
Не раскруціла іх,
не растрасло.
І у душы,
прыгнечанай гадамі,
Не лёд сцюдзёны, не халодны камень,
А тлее неўміручае цяпло.
Яны унукаў туляць да грудзей,
Пануе згода —
Ні дубца, ні дзягі.
Адкрытыя для ласкі і павагі,
Даверлівасці шчырай да людзей.
Хоць іхні стол
не бедны, не пусты,
І, як звычайна,
хораша у хаце,
Для іх усё ж галоўнае багацце —
Бяздонныя запасы дабраты.
Пад ліпамі
Развейваецца дым...
Мае дзяды,
сівыя патрыярхі,
Без утрапення і адкрытай скаргі
Маўкліва адыходзяць
Па адным,
Сабе гадоў не просячы яшчэ —
За цяжкі лёс заслужанай надбаўкі.
Бы трон дубовы, пакідаюць лаўку...
І больш вайна ім раны не пячэ.
Яны завуцца сціплымі людзьмі,

Хоць буйна іх калосяцца барозны...
Мой дружа,
Паспяшы, пакуль не позна,
Ад іх святую спадчыну вазьмі.

7

З гнязда ірвіся, сіла маладая,
Твой гулкі шлях у вышыню вядзе.
Не забывайся толькі:
У гняздзе
Спружыністае крылле вырастае.
Ляці, ракета, з хуткасцю дзівоснай
Паслом касмічным.
Помні аб адным,
Што іменна у бункеры зямным
Закладзен быў імпэт ракетаносны.
Заззяй ля сонца
ў дзіўным утрапенні,
Вакол агледзься,
Перавёўшы дух.
Твой пераможна-завяршальны рух
Стварылі папярэднія ступені.
Працяг з пачаткам моцна знітаваны —
Не ляжа пасярэдзіне рубец.
Працяг...
Пачатак...
Самі па сабе
Не існуюць яны ізалявана.
Паражняком са станцыі «Учора»
Не мчы удаль, дзе пеніцца імжа.
Іначай загайдаецца душа,
Што цела ў беспаветранай прасторы.
О, дзіўная няпісаная сувязь
Хвілін наступных і былых хвілін!
Час круціцца і круціцца, як млын,

Але жыве нязменлівая сутнасць,
Не траціцца спаянае адзінства
Яго няспынна-велічнай хады.
Шукае ўпарта сталасць праз гады
Сон каляровы — мройнае дзяцінства.
І кожны шлях, што пройдзены,—
не дым...
Хоць мост у новы дзень
Перакідаю.
О мой напарнік,
я даўно жадаю
Быць на зямлі паэтам-сувязным.
Вялікі свет мігціцца уваччу,
Вякі і дні
куляюцца пад ногі.
Разрозненыя лёсы і дарогі
Адной любоўю радасна злучу.
Як сувязны,
З'ядназю аднаверцаў —
Каб разам здужаць горыч і бяду.
Жыву і веру:
еднасць праўду —
Няхай цячэ ад сэрца і да сэрца.

## ЗМЕСТ

**Дукса М.**

**Д 81** **Забытыя словы: Лірыка.— Мн.: Маст. літ., 1979.— 88 с.**

**У новым зборніку Мар'яна Дуксы адчувальна гучыць тэма пераемнасці пакаленняў, тэма адказнасці перад мінулым і будучым. Лірычны герой востра адчувае бег часу, імкнецца быць вартым сваіх папярэднікаў і наступнікаў.**

**Д $\frac{70403-032}{М\ 302(05)-79}$ 45—79** **Бел 2**

*Марьян Николаевич Дукса*

ЗАБЫТЫЕ СЛОВА

Лирика

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар В. В. Спрынчан. Мастак У. У. Даўгань. Мастацкія рэдактары А. М. Малышава, А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. Т. Калюжная.

ІБ № 350

Здадзена ў набор 17.01.79. Падп. да друку 31.01.79. АТ 01040. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Друк высокі. Ум. друк. арк. 3,22. Ул.-выд. арк. 2,73. Тыраж 4000 экз. Зак. 1647. Цана 30 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

